Цана асобнага № 40 кап.

# Вольная Беларусь

ТЫДНЁВІК
палітычны і літэратурны

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На год . . 12 р. —
На поўгода . 7 р. —
На 1 месяц . 1 р. 50 к.

Перамена адрэсу 50 к.

Ніхай жыве нізалежная Беларусь!

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
г. Менск, Захараўская, 18.

ГОД ВЫДАННЯ II.

№ 30. 3-го верэсьня 1918 г. № 30.

## Нашы месты.

*(Гістарычныя нарысы паводлуг кнігі Семенава „Россія“).*

(Глядзі № 2.).

**Менск.**

У 1839 г. у Менску адбылося злучэнне вуніятау с праваслаунаю цэркаую. Касуючы вуніяцтво, маскоускі урад кіравауся мэтай абрусення. Гэта была палітыка царыцы Катарыны II, каторая глядзела на Беларусь, як на край, заселены вялікарускім племям і цяпер толькі прылучаны да Масквы. Яна першая стала патурацъ пераходу вуніятау у праваслауе, і у гэтай справе ей шмат дапамагалі самі вуніяцкія сьвяшчэннікі, пакрыуджаныя палякамі і ніразумеуншымі хітрай палітыкі Катарыны. Трэба зазначыць, што з усіх маскоуцау царыца Катарына лепш за усіх разумела, што с сябе уяуляе Беларусь. Маскоускае грамадзянство саусім ні разбіралося у гэтым. Гэта відаць з дарожных запісак вучонага акадэміка Севергіна, каторы, трапіушы у праваслауную цэркау на Беларусі, дзівіуся, што набажэнство тут натта падобнае да грэка-расійскаго, і усіх беларусау залічыу «схізматыкамі».

Цар Павал адступіу ад палітыкі свае маціяры і дау перавагу польскім уплывам у краю. Дзякуючы яму, маскоускае грамадзянство і вырабіло сабе погляд на Беларусь, як на польскі край. Ен бараніу вуніятау ад прымусоваго далучэння да праваслауя, але аддау вуніяцкую цэркау пад загад лацінскай. Гэта урадавая мера стала спрыяць пераходу вуніятау у каталіцтво. Але пры цару Паулу было зроблено адно і добрае дзело: была аднаулена судовая чыннасьць паводлуг Літоускаго Статута. Законадауство Літоускаго Статута разам с пазьнейшымі соймавымі ухваламі было далека лепшае за тыя законы, якімі Масква справавалася ад часоу цара Алексея Міхалавіча. Маскоускія законы таго часу давалі поуны прастор для судоваго надужыцця. Тым часам, Беларусь на працягу вякоу судзілася і устанаулала свае грамадзянскія адносіны па Статуту, і аднауленне яго выклікало радасьць і надзеі. Але ні на доуга.

Хутка расійскі урад саусім умацавауся на поглядзе абрусення. Гэта было пры цару Мікалаю. Пры ем сталі ужывацца самыя рашучыя меры. Пачалося с таго, што сталі зачыняцца школы, каторыя былі пад загадам вуніятау. Маскоускі урад натта баяуся шырокаго росквіту мейсцовай Беларускай школы і у 1834 г. была закрыта палавіна усіх школ на Беларусі, каторыя утрымліваліся скарбам. Вялікаруская мова заводзілася у школах, у розных урадавых установах і, нарэсьці, быу скасован Літоускі статут. Пачалося агульнае злучэнне вуніятау с праваслаунымі. Нікаторыя губэрнатары і прадажныя архіерэі выяулялі такую старраннасьць у справі злучэння, што нават расійскі урад змушэн быу супыняць іх, каб ні занатта дражніць вуніятау. Але глаунае кірауніцтво абрусіцельнаю палітыкаю на Беларусі было у асьцярожных і разумных руках Язэпа Семашкі, вуніяцкаго біскупа літоускай дыэцэзіі, каторы быу душою сэкрэтнаго камітэта, заложаннаго царом Мікалаем I. Язэп Семашка хітра і асьцярожна выпауняу заданні маскоускай палітыкі. Яго плян складауся с таго, каб памаленьку і паступова зблізіць вуніяцкую цэркау с праваслаунаю. Былі ужыты усякія заходы дзеля таго, каб перапыніць уплыу на справы вуніяцкай цэркві чорнаго вуніяцкаго духавенства, каторае цьверда стаяло на сваем нацыянальным беларускім грунце. Затым, пачалася надворная пераробка вуніяцкіх цэркваў: ставілі іконастасы, заводзілі набажэнство па кніжкам маскоускаго друку. Ніпакорлівых сьвяшчэнікау ссылалі у Маскоушчыну, або ухілялі с пасадау. Была ужыта нават палітычная хітрасьць. Маскоускі урад зрабіу замер, што хочэ умацаваць вуніятау, дзеля чаго назначыу новых вуніяцкіх біскупау: Базыля Лужынскаго, Антонія Зубко (у Менск) і Іосафата Жарскаго. Але у лік біскупау падбіраліся асобы пэуныя для маскоускаго ураду, гатовыя зрабіць усе, чаго ад іх пажадаюць. Усе гэта рабілося пад кірауніцтвам Язэпа Семашкі. Заміналі толькі Семашку мітрапаліт Язэп Булгак і, памылкова назначаны біскупам, Іосафат Жарскі, але яны хутка памерлі. Калі усе папярэднія заходы былі выпаунены і усе перашкоды ухілены, тагды тры вуніяцкія біскупы, падабраныя, як мы бачым урадам,—Базыль Лужынскі, Язэп Семашка і Антоні Зубко,— напісалі у Полацку у 1839 г. акт аб злучэнні вуніяцкай цэркві с праваслаунаю. На першых парах былі астаулены у цэрквах шмат якія асаблівасьці вуніяц-


Драматычны Гурток пры Т-ве Ахвотнікоў Беларускага Народнага Штукарства у Петраградзе-1918 г.
Dramatyčny Hurtok pry T-wie Achwotnikoŭ Biełaruskaho Narodnaho Štukarstwa u Pietrahradzie - 1918 hod

гледжэна з усіх бакоў знаючымі людзьмі. Дзеля таго клічу усіх, хто цікавіцца гэтым пытаннем, пакуль што зрабіць так:

Ніхай кожны з нас возьме на сябе якую небудзь школьную навуку, ці аддзел яе, і ад пачатку да канца выпрацуе тэрміны, якія і надрукуе у «Вольнай Беларусі».

Такім чынам для камісіі, якая складзецца, будзе матэрыял для апрацоўкі. С свайго боку, я прышлю пры першым выпадку матэрыялы па фізычнай тэрміналёгіі, а цяпер дадаю, што маю пад рукою:

### МАТЭРЫЯЛЫ
### для фізычнай тэрміналёгіі.

| | | |
|---|---|---|
| 1). | Фізыка . . . | Физика |
| 2). | Фізычнае цело . | Физическое тѣло |
| 3). | Матэрыя . . . | Вещество |
| 4). | Прастор . . . | Пространство |
| 5). | Ява . . . . | Явленіе |
| 6). | Хемія . . . | Химія |
| 7). | Дух . . . . | Газ |
| 8). | Становішчо матэрыі . . . | Состояніе веществ. |
| 9). | Жыжка . . . | Жидкость |
| 10). | Духавідны . . | Газообразный |
| 11). | Вугальны квас . | Углекислый газ |
| 12). | Будоўля матэрыі | Строеніе вещества |
| 13). | Абсяг . . . | Объем |
| 14). | Мерная шклянка | Мензурка |
| 15). | Імпэт . . . | Сила |
| 16). | Імпэт цяжару . | Сила тяжести |
| 17). | Вага . . . | Вѣс |
| 18). | Мярыло . . | Масштаб |
| 19). | Простападны напрамак . . | Вертикальное направленіе |
| 20). | Паземны напрамак . . . . | Горизонтальное направленіе. |

Кіеу. С пашанаю **Л. Леушчэнка**.



## Яшчэ аб справі будовы Беларускаго Народнаго Дому у Менску.

У папярэднім нумэры «Вольн. Белар.» я закрануў азначэную у загалоўку справу. Ні хочучы, каб яна засталася толькі тэмай для газэтнай стацці, а посьля супачыла у кучы макулятуры, —разьвіваю далей гэтую думку, прапануючы способы яе рэалізацыі.

Самы просты, на мой погляд, способ правядзення проэкту будовы у Менску Беларускаго Народнаго Дому у жыцце — гэта заргатізаваць таварыство будовы. Гэткая арганізацыя—гэта глаўны пачатак работы. Стварыўшы яе, можна ужо пачаць зьбіраць грошы, бо дагэтуль, калі-б нават і знайшліся людзі, маючыя ахвоту даць сваю ахвяру на гэтую народную справу, то ні ведаюць, куды зьвярнуцца, куды даць грошы.

Ніхай нікога ні палохае аграмаднасьць сумы патрэбнай на гэтае дзело! Німа мейсца на скептыцызм. Ніхай нават збор грошы ідзе памалу, ніхай нават проэкт гэны дачэкаецца свайей рэялізацыі у далёкай будучыні,—ўсе роўна,—рук складываць нельга, работу трэба рабіць...

Але я веру, што будова Дому у Менску ні так трудная да выпоўнення, як на першы погляд здаецца. Ініцыятыва і энэргія едзінак, а спогад усяго народу могуць зрабіць вельмі многа. Чэскі тэатр сёлета справуляў толькі 50-ую гадаўшчыну свайго жыцця. Гэта-ж такі малы кавалак часу, а праз гэты час тэатр чэскі стаў на эўропэйскай вышыні. Чэхі ужо маюць багатую драматычную літэратуру, пакаленні мастакоў сцэнічнаго штукарства, свае «Народнае Дівадло». На правінцыю прамені сцэнічнаго мастацтва нясуць прыватныя правінцыянальныя драматычныя труппы...

Жыцце ідзе наперад усе шпарчэй. Тое, што калісь рабілося праз 50 год, цяпер павінно зрабіцца шмат хутчэй. Тое, што чэхі, ні маючыя свайей дзяржаўнасьці, зрабілі для свайго тэатру праз поўсталецце, мы зробім у час карацейшы, калі у нас, так сама, як і там, справа гэта здабудзе сабе популярнасьць паміж усяго народу. І вось, дзеля гэтаго, калі ўваскрэсьне да жыцця таварыство будовы Народнаго Дому, трэба, каб увойсьце у гэнае т-во было для усіх магчымо, каб кожны мог дакінуць сваю капейку да народнай справы. І тады мы, як і нашы браты—чэхі, будзем магчы на сьценах сьвятыні нашаго мастацтва выпісаць гордыя, пекныя словы: «народ сабе»...

**Ф. А.**



## Поэтам.

Што дзень чытаю вашы творы
І часам сам пішу,
Калі душа у цяжкім горы,
Калі ад сьлез гашу
Агонь сьвятога паважэння
Да працы, да лясоу
І праз надзею 'ад сумнення
У путах дум ізноу.
Мой нудны верш—і шчасьця сьвета
Ен ні нясе с сабой.
Поэт я жалю, і праз гэта
Я знаюся з нудой.
Але люблю у час нядолі
Успомніць дні жыцця
Сваіх братоу, і песьні волі
Люблю успомніць я.
. . . . . . . .
. . . . . . . .
Дык вы, поэты, ні сьпевайце,
Што вам у дзень здалось,—
Сьпевайце песьні і складайце,
Як нам дауней жылось!
Поэт—цікавае тварэнне,
Ен для другіх узрос...
Ні трэба-ж жалю і вонтпення
І годзі цяжкіх сьлез!
Бо веру я, народ паустане
Да працы з нібыцця,
Як кветкі с пахам на кургане
Вясною да жыцця!
Бо веру я, іноу вярнецца
Ні паншчына,—судзьдзя:
Мне воля сьніцца і, здаецца,
Што волю бачу я!

Менск, 17/VI 18. **М. Запольскі**.



Рэдактар **Я. Лёсік.**



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.